*Беларусам не патрэбен Майдан, беларусам патрэбны чэсныя, дэмакратычныя выбары!*

№ 62 (4520)

7 жніўня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

ВЕКАПОМНЫЯ ДНІ

### Будзем з хлебам!

Паводле дадзеных на ўчарашні дзень, у краіне намалочана больш за 4,4 мільёна тон збожжа пры сярэдняй ураджайнасці 38,3 ц/га (у 2019 годзе ўраджайнасць на аналагічную дату складала 32,2 ц/га).

Першы мільён тон збожжа з рэкорднай для рэгіёна ўраджайнасцю амаль 42 ц/га намалацілі ў Брэсцкай вобласці, мільённы паказчык дасягнуты таксама і ў Мінскай вобласці.

Нагадаем, што ў гэтым годзе стаіць задача атрымаць больш за 9,5 мільёна тон збожжа з улікам кукурузы.

# Твой выбар, народ Беларусі?!

*4 жніўня ў дзяржаўнай газеце «Звязда», тыраж якой усяго 14 тысяч экзэмпляраў, надрукаваны перадвыбарныя праграмы кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Да ўвагі чытачоў «Народнай Волі» – фрагментарныя вытрымкі з іх.*

## Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ:



### «Гаварыць праўду. Цаніць людзей. Змяняць уладу»

**10 першых крокаў НОВАГА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ:**

1.Сфарміраваць пераходны ўрад разам з альтэрнатыўнымі кандыдатамі ў Прэзідэнты і правесці прэзідэнцкія і парламенцкія выбары з новым складам Цэнтральнай і ўчастковых выбарчых камісій.

2.Абмежаваць знаходжанне на пасадзе прэзідэнта двума тэрмінамі; забяспечыць падзел улад і выбарнасць грамадзянамі кіраўнікоў гарадоў і раёнаў.

3.Адмяніць прыніжальную кантрактную сістэму пры найме на работу.

4.Устанавіць сярэднюю пенсію ў памеры не менш за 60 працэнтаў ад сярэдняй заработнай платы па краіне.

5.Рэфармаваць прамысловыя прадпрыемствы. Хранічна стратныя – прыватызаваць. Скарочаным работнікам выплачваць дапамогу не менш за 2/3 акладу на працягу 6 месяцаў і забяспечыць перанавучанне.

6.Падтрымаць бізнес у малых і сярэдніх гарадах, рэалізаваць «Нацыянальную платформу бізнесу».

7.Скараціць колькасць чыноўнікаў. Правесці публічныя праверкі на прадмет кумаўства ў органах улады і сувязяў улады і бізнесу.

8.Прадаць большасць рэзідэнцый сённяшняга прэзідэнта, грошы вярнуць у бюджэт.

9.Палепшыць матэрыяльна-тэхнічную базу ўстаноў аховы здароўя. Абсталяванне МРТ, КТ, УГД для максімальнай колькасці паліклінік, праграма «Жыллё для маладых медыкаў».

10.Вызваліць настаўнікаў ад нагрузкі, не звязанай з навучаннем і выхаваннем дзяцей. Забараніць паборы ў дзіцячых садках і школах. Увесці ў ВНУ размеркаванне па жаданні.

★★★

**Канстытуцыйная рэформа.** Беларусь павінна быць парламенцка-прэзідэнцкай рэспублікай. Адна і тая ж асоба не павінна займаць пасаду Прэзідэнта больш за два тэрміны. Скараціць паўнамоцтвы прэзідэнта, якія перашкаджаюць падзелу ўлад і эфектыўнай рабоце дзяржавы.

**Рэформа сістэмы мясцовага самакіравання.** Падпісаць Еўрапейскую Хартыю мясцовага самакіравання. Увесці прамыя выбары мясцовых кіраўнікоў і зрабіць іх залежнымі ад грамадзян, а не ад чыноўнікаў з Мінска.

**Незалежнасць судовай улады.** Забяспечыць незалежнасць судоў, выкараніць «тэлефоннае права».

**Гуманізацыя Крымінальнага кодэкса.** Увесці мараторый на смяротнае пакаранне.

**Эфектыўны дзяржаўны апарат.** Аптымізаваць колькасць чыноўнікаў, павысіўшы ім заробкі. Ліквідацыя ідэалагічнай «вертыкалі». Адкрыты конкурс будзе адзінай формай найму на дзяржаўныя пасады.

★★★

**Медыцына.** Забяспечыць доступ для ўсіх грамадзян да бясплатнага якаснага медыцынскага абслугоўвання ў дзяржаўных медыцынскіх установах пры паралельным развіцці сістэмы страхавой і прыватнай медыцыны. Прыняць закон аб абароне правоў пацыента.

**Адукацыя.** Размеркаванне павінна быць па жаданні. Адмяніць плату за вучобу ў дзяржаўных навучальных установах як з'яву, якая супярэчыць Канстытуцыі.

**Пенсіённае забеспячэнне.** Правесці пенсіённую рэформу без павышэння пенсіённага ўзросту. Распрацаваць сістэму накапляльных пенсій, дадатковага пенсіённага страхавання, развіваць прыватныя пенсіённыя фонды разам з дзяржаўнымі.

★★★

**Падтрымка беларускай мовы.** Прыняць закон аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы, адкрыць Нацыянальны ўніверсітэт, а ў кожным райцэнтры – школу або гімназію з выкладаннем усіх прадметаў на беларускай мове. Чыноўнік, дэпутат, кіраўнік дзяржавы абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі.

**Свабода слова і друку.** Зняць існуючыя бар'еры для свабоднай дзейнасці СМІ і журналістаў.

## Ганна КАНАПАЦКАЯ:



### «Беларусь для людзей. Я зраблю!»

…Мы згубілі больш за мільён нашых суграмадзян, апынуліся ў дэмаграфічнай яме, цалкам згубілі свой аўтарытэт у свеце і сярод суседзяў. Мы маем адсталую прамысловасць, неэфектыўную сельскую гаспадарку, велізарны знешні доўг, агромністыя адміністрацыйны і рэпрэсіўны апараты, беднае насельніцтва і аўтарытарнага лідара на чале краіны.

Нашы дзяржаўнасць і незалежнасць знаходзяцца пад пагрозай і з'яўляюцца прадметам пастаяннага гандлю.

★★★

Мая праграма – **«БЕЛАРУСЬ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ. Я ЗРАБЛЮ!»**.

Яна пабудавана на базавых прынцыпах дэмакратычнай, еўрапейскай, суверэннай, сацыяльнай дзяржавы. Дзяржавы для народа і для кожнага чалавека, які ў ёй жыве.

★★★

…Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай еўрапейскай цывілізацыі. Таму еўрапейскі шлях нашай краіны – гэта не пытанне геапалітычнага хістання паміж Масквой і Бруселем, а свядомы і асэнсаваны ўдзел у еўрапейскіх структурах у якасці паўнапраўнага зацікаўленага боку.

Я выступаю за рэалізацыю закладзенага ў Канстытуцыі імкнення да дзяржаўнага нейтралітэту і за перагляд усіх міжнародных дагавораў, якія не адпавядаюць нацыянальным інтарэсам Беларусі:

– дэнансацыю Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы;

– выхад з Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ);

– спыненне дагавораў арэнды вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі Расійскай Федэрацыяй і вывад з тэрыторыі Беларусі расійскіх вайскоўцаў.

★★★

Я выступаю за бяскроўны, цывілізаваны, дэмакратычны пераход улады ў нашай краіне. Дзеля гэтага я прапаную заканадаўча замацаваць:

– абмежаванне адным сямігадовым тэрмінам знаходжанне на пасадзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

– забеспячэнне спецыяльных гарантый сышоўшаму кіраўніку дзяржавы і членам яго сям'і з асаблівым механізмам прыцягнення яго да судовай адказнасці пры наяўнасці дастатковых падстаў.

★★★

Час для хуткіх і эфектыўных эканамічных змен бяздарна згублены. Зараз давядзецца ісці на складаныя і рашучыя меры, сярод якіх:

– фундаментальная падатковая рэформа са зменай сістэмы падаткаабкладання – дзеля змяншэння падатковага цяжару і павелічэння эфектыўнасці выкарыстання падатковых адлічэнняў;

– поўны перагляд дзяржаўнай крэдытна-фінансавай і бюджэтнай палітыкі;

– прыватызацыя пэўных дзяржаўных прадпрыемстваў;

– закрыццё неэфектыўных вытворчасцяў з пераразмеркаваннем і сацыяльным забеспячэннем працоўных рэсурсаў;

– увядзенне інстытута прыватнай уласнасці на зямлю;

– разбуйненне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў з ліквідацыяй наступстваў сацыялістычнай калектывізацыі;

– узмацненне барацьбы з карупцыяй;

– нацыяналізацыя незаконна набытых актываў і вяртанне грашовых сродкаў, што былі выведзены з краіны.

★★★

Незалежнасць Беларусі не будзе трывалай да таго часу, пакуль яна не забяспечваецца культурнымі, ідэалагічнымі і юрыдычнымі чыннікамі. Дзеля іх стварэння я буду ініцыяваць:

– вяртанне дзяржаўнага статусу спрадвечным нацыянальным беларускім сімвалам – гербу «Пагоня» і Бела-Чырвона-Беламу сцягу;

– абвяшчэнне галоўным дзяржаўным святам краіны Дня Волі 25 сакавіка;

– уключэнне ў сістэму дзяржаўных святаў найважнейшых для нашай незалежнасці дат – 27 ліпеня і 25 жніўня.

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:



### «Разам за Беларусь!»

**ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ!**

Мы павінны будзем вызначыць **БУДУЧЫНЮ НАШАЙ БЕЛАРУСІ.** Краіны, якую мы будавалі чвэрць стагоддзя разам, сваёй працай ствараючы сучаснае аблічча новай еўрапейскай дзяржавы.

Да сваёй мэты ішлі шляхам мірнага тварэння.

Атрымалі суверэнітэт у межах існуючых граніц Беларусі. **На абломках вялікай Савецкай імперыі стварылі незалежную дзяржаву, упершыню ў гісторыі!**

У надыходзячы час мы зробім усё неабходнае для ўмацавання, захавання і прымнажэння яе асноў.

Усякая палітыка (знешняя і ўнутраная) толькі тады чагосьці вартая, калі яна прыносіць у выніку карысць людзям. Таму лозунг **«Дзяржава для народа!»** вызначае галоўныя напрамкі развіцця.

**АСАБІСТАЯ АДКАЗНАСЦЬ КОЖНАГА ЗА ЛЁС КРАІНЫ**

Па меры таго як мянялася наша Беларусь, мяняліся мы. Гатоўнасць беларусаў браць на сябе адказнасць за лёс краіны відавочная.

І ступень гэтай адказнасці ўстановіць сам народ.

Але па законе! Не на вуліцах і плошчах, а праз прававыя адносіны.

Пачнём з Канстытуцыі.

Беларусы падчас усенароднага абмеркавання вызначаць свае правы, свабоды і абавязкі, а таксама паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай улады.

**АД ЗАХАВАННЯ – ДА ПРЫМНАЖЭННЯ**

У сферы эканомікі мы не пойдзем на шокавую тэрапію. Таму што расплачвацца за радыкальныя рэформы будуць самыя неабароненыя пласты насельніцтва – тыя, хто ўсё жыццё працаваў і ўздымаў краіну з руін перабудовачнай эпохі.

**Нашы рэформы – гэта ўдасканаленне таго, што створана.**

Нельга дапусціць злому сістэмы і забраць у людзей гады стабільнага і шчаслівага жыцця, як гэта адбывалася і адбываецца ў шэрагу краін свету. Аднавіцца пасля такіх узрушэнняў практычна немагчыма.

**Безумоўным прыярытэтам застанецца рост даходаў грамадзян.**

На працягу пяцігодкі сярэдняя заработная плата ў Беларусі вырасце ў 2 разы.

Для гэтага мы дадзім максімальную падтрымку інвестарам, перш за ўсё нацыянальным. Тым, хто гатовы сумленна і справядліва ўкласці грошы ў нашу краіну, будуць забяспечаны максімальна простыя працэдуры вядзення бізнесу. Абсалютна роўныя магчымасці і ўмовы для прыватных і дзяржаўных кампаній.

**АСАБЛІВАЯ ЎВАГА – РЭГІЁНАМ**

**…Вытокі сучаснай Беларусі – у сельскім укладзе.** Наш гістарычны абавязак – знайсці гаспадароў для тысяч пакінутых зямельных участкаў. Прапанаваць найлепшыя ўмовы для будаўніцтва індывідуальнага жылля. Для тых, хто зробіць такі выбар, мы створым неабходную інфраструктуру (хуткасны транспарт, хуткія дарогі) і забяспечым сучасныя сацыяльныя стандарты (школы, дзіцячыя сады, паліклінікі, забаўляльныя цэнтры, спартыўныя пляцоўкі). Усё гэта дазволіць рэгіёнам стаць цэнтрамі прыцягнення для жыцця.

**БЕЛАРУСЬ – ДОНАР СТАБІЛЬНАСЦІ**

На працягу чвэрці стагоддзя мы з вамі будавалі Беларусь – наш агульны дом з вокнамі і на Усход, і на Захад. Мы заўсёды былі адкрытыя для сяброўства і супрацоўніцтва. Ніколі не ўмешваліся ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў. Наша міралюбная дыпламатыя была і застанецца залогам бяспекі беларусаў.

Але мы ўступаем у эпоху глабальных геапалітычных узрушэнняў.

Будзе зроблена ўсё, каб рознагалоссі ў знешняй палітыцы не адбіліся на дружбе народаў, якім наканавана жыць побач на гэтай зямлі ў цэнтры Еўропы, а геаграфія дружалюбных нам краін пашырылася.

Дарагія беларусы, грамадзяне краіны!

**НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ КАШТУЕ ДОРАГА, АЛЕ ЯНА ВАРТАЯ ТАГО, КАБ ЯЕ ЗАХАВАЦЬ І ПЕРАДАЦЬ НАСТУПНЫМ ПАКАЛЕННЯМ.**

**ЗА НАМІ – БЕЛАРУСЬ!**

## Святлана ЦІХАНОЎСКАЯ:



### «Краіна для жыцця. Краіна для нашых дзяцей»

Я – кандыдат у Прэзідэнты Святлана Ціханоўская, і гэта маё пісьмо ўсім грамадзянам Беларусі. Мне 38 гадоў. Нарадзілася на Палессі. Скончыла філалагічны факультэт Мазырскага педагагічнага ўніверсітэта. Свабодна валодаю беларускай, рускай і англійскай мовамі.

★★★

**Галасуючы за мяне, вы галасуеце за аднаўленне вашага права выбіраць уладу, за новыя і сумленныя выбары.** Толькі так краіна зможа развівацца далей.

★★★

Ужо сёння зразумела, што выбары, якія адбудуцца 9 жніўня 2020 года, немагчыма прызнаць свабоднымі і сумленнымі. Многіх моцных кандыдатаў, у тым ліку Сяргея Ціханоўскага, Віктара Бабарыку і Валерыя Цапкалу, пазбавілі магчымасці ў іх удзельнічаць: па замове аднаго з канкурэнтаў распачаты крымінальныя справы, у сметнік выкінуты сотні тысяч сабраных подпісаў. Патрэбны новыя сумленныя і свабодныя выбары з празрыстым падлікам галасоў.

Пасля ўступлення на пасаду Прэзідэнта я прыму меры для захавання стабільнасці ў краіне і стварэння ўмоў для правядзення сумленных выбараў:

я прызначу шэсць новых незалежных членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі, у тым ліку старшыню, і выдам указ аб правядзенні новых выбараў Прэзідэнта;

сістэма выбарчых камісій будзе сфарміравана такім чынам, што ў іх будуць уключаны прадстаўнікі ўсіх зацікаўленых палітычных партый, розных грамадскіх арганізацый, а таксама, у абавязковым парадку, прадстаўнікі кандыдатаў у Прэзідэнты;

на кожным участку будуць устаноўлены празрыстыя урны і камеры, якія будуць весці анлайн-трансляцыю;

кожны бюлетэнь будзе дэманстравацца назіральнікам і толькі пасля гэтага змяшчацца ў стос галасоў за кандыдата;

давераныя асобы кандыдатаў будуць мець права патрабаваць пераліку галасоў за любога кандыдата на любым участку;

датэрміновае галасаванне будзе дапускацца ў выключных выпадках для тых, хто не можа галасаваць у дзень выбараў па ўважлівай прычыне;

усім кандыдатам будуць дадзены роўныя магчымасці для агітацыі, без злоўжывання службовым становішчам.

Я прызначу правядзенне рэферэндуму з прапановай вярнуцца да першапачатковай рэдакцыі Канстытуцыі 1994 года, якая скарачае паўнамоцтвы прэзідэнта, устанаўлівае абмежаванне на колькасць тэрмінаў знаходжання на пасадзе і забяспечвае падзел улад. Рэферэндум будзе праводзіцца адначасова з выбарамі прэзідэнта.

★★★

Мы здымем бар'еры для развіцця малога і сярэдняга бізнесу. Няхай людзі самі ствараюць рабочыя месцы. Прыбытковыя дзяржаўныя прадпрыемствы працягнуць працаваць. Са стратнымі павінны разабрацца прафесіяналы.

★★★

Незалежнасць – наша абсалютная каштоўнасць, мы яе не прадаём, не гандлюем, не абмяркоўваем.

Мы мірныя людзі і будзем сябраваць з усімі, але толькі ў інтарэсах уласнай краіны.

Мы павінны стварыць партнёрства на роўных, а не залежнасць ад газавай або крэдытнай «іголкі».

Нас усіх чакае вялікая праца. За 26 гадоў краіна прыйшла да той кропкі, калі праблему нельга вырашыць у адзін момант. Простага шляху няма. Або мы аб'ядноўваемся і разам ідзём далей у краіну для жыцця, або зноў паўтараем памылкі мінулых гадоў.

★★★

Настаўнікаў у школах трэба вызваліць ад усяго, што не звязана з навучаннем і выхаваннем дзяцей, – ад забеспячэння падпіскі на газеты, прымусу дзяцей уступаць у БРСМ, наведвання прапагандысцкіх мерапрыемстваў – да збору грошай і рамонту кабінетаў за свой кошт.

## Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ:



### «Эволюция власти»*

**Вместо неэффективных колхозов – успешные фермерские хозяйства.** Земля по праву принадлежит не чиновникам из исполкомов, а людям, которые ее обрабатывают. Обеспечить возможность работникам аграрных предприятий участвовать в их приватизации и создавать собственные частные фермерские хозяйства на максимально простых условиях.

**Провести честную и прозрачную приватизацию.** Малые и средние госпредприятия должны быть приватизированы по понятным правилам, с размещением информации в открытых источниках. Работники будут иметь право принимать участие в приватизации предприятий.

★★★

**…Отмена «налога на тунеядство» в любом виде:** заставлять людей платить за то, что они потеряли работу, – абсурд. **Заслуженные пенсии платить полностью –** независимо от того, продолжает ли пенсионер работать. **Честно считать рабочий стаж,** включая службу в армии, учебу и декретный отпуск.

**Приоритет для бюджета – качественное и по-настоящему бесплатное медицинское обслуживание: на здоровье не экономят.** Никаких закрытых лечебниц для начальства: хорошие поликлиники и больницы должны быть доступны всем. **Главные в вопросах безопасности здоровья – врачи, а не чиновники.** Принимать решение о действиях государства в случае эпидемии должны специалисты-медики, а не Администрация президента. **Достойные зарплаты и условия труда врачей и учителей:** без вынужденного труда на 1,5–2 ставки и бессмысленной бумажной работы. **Признать европейские сертификаты на лекарства.**

★★★

**Доступное жилье для всех.** Вместо ненадежного долевого строительства необходимо развивать ипотеку, для первой квартиры – под сниженный процент. Каждая семья и каждый работающий человек заслуживают возможность жить в своем доме.

**Забота о детях – забота о будущем.** Декретное пособие необходимо увеличить до уровня, позволяющего достойно растить детей. Материнский капитал должен быть доступен с рождения ребенка. **Детские сады без очередей:** бюджетная поддержка должна распространяться и на частные учреждения с возможностью выбирать дополнительные услуги за дополнительную плату. **Доступное частное образование:** убрать барьеры для развития частных школ и университетов. Достойные бюджетные стипендии для талантливых учеников.

★★★

**Свободные и честные выборы.** Чтобы народ был властью, голоса избирателей нужно считать прозрачно. У всех кандидатов должен быть равный доступ к средствам массовой информации.

**Прямая демократия и выборы местной власти.** Вместо назначаемых сверху председателей исполкомов должны быть избираемые людьми мэры. Тогда местные власти будут заботиться о благополучии людей и решать их проблемы, а не ждать указаний из столицы. Каждый регион должен самостоятельно распоряжаться своим бюджетом и иметь все необходимые полномочия для важных местных решений.

★★★

**Возвращение исторических флага и герба.** Бело-красно-белый флаг и герб «Погоня» – важные символы, под которыми Беларусь боролась за свою независимость и обрела ее, поэтому они должны сопровождать будущее развитие нашей страны. **Вопрос о государственных символах должен решаться народом на честном референдуме.**

**Мораторий на смертную казнь.** Государство не должно лишать своих граждан жизни – это негуманно и делает судебную ошибку неисправимой.

* *Программа Сергея Черечня напечатана в «Звяздзе» на русском языке.*

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

*Добрый день, уважаемая редакция «Народной Воли»!*

*Направляю вам свое Открытое письмо Президенту Республики Беларусь и прошу вас опубликовать его в ближайшем номере газеты.*

*С уважением –*

**Дмитрий КУРАТНИК, постоянный читатель «Народной Воли».**

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко

Уважаемый Александр Григорьевич!

В настоящее время я не проживаю в Беларуси, но по происхождению являюсь настоящим, коренным белорусом. И я имею право обратиться к вам с настоящим письмом.

Волею судьбы сложилось так, что в ваших руках находится будущее нашей общей страны: вы «сосредоточили в своих руках необъятную власть» (если цитировать знаменитое ленинское «Письмо к съезду»), присвоив себе право вершить судьбу почти 10-миллионной страны, принимать решения, от которых зависят ее благополучие и даже само существование. Но вместе с тем на ваших плечах лежит огромная ответственность, которую вы обязаны осознавать и которую вы не можете игнорировать.

Сегодня Беларусь уже не та, что была еще полгода назад, не говоря уже о ситуацию 10–15-летней давности. Тогда большинство белорусского народа вас действительно поддерживало, в вас очень многие верили и отдавали вам свои голоса на выборах. Конечно, реальные результаты, скорее всего, отличались от официальных, но важно другое – тогда вы на самом деле были президентом большинства белорусского народа. Но, как писал Максим Богданович, *няма таго, што раньш было*. Сегодня расклады уже совершенно другие. Белорусы устали жить в стране, которая долгие годы топчется на месте, где талантливая молодежь из-за своих прогрессивных взглядов не видит для себя будущего на родине, где попираются элементарные права человека и гражданина, где установлен, можно сказать, средневековый режим персоналистской диктатуры. Люди хотят лучшей жизни, но они понимают, что при вас вряд ли она когда-нибудь будет – вы уже сделали всё, что могли.

Я далек от однобокого восприятия истории, от того, чтобы мазать тот или иной период истории лишь одной краской. Жизнь всегда богаче примитивного дихотомического деления на белое и черное. Наверное, будущие историки, когда будут оценивать период вашего правления, найдут в нем что-то позитивное. Например, вы когда-то в определенном смысле исполнили свое обещание «отвести народ от пропасти». Но вопрос, какой ценой это было достигнуто: ценой уничтожения демократии, свободы слова, реальных выборов, «братской интеграции» с Россией, создания неэффективной, тотально огосударствленной экономической системы. Да, с тактической точки зрения эти шаги, при всей их, мягко говоря, неоднозначности, оправдали себя. Но в долгосрочной перспективе это был путь в тупик, что сегодня в полной мере и подтверждается.

Вы фактически отняли у белорусов право выбора и сегодня пытаетесь изобразить белорусский народ скопищем несмышленых детей, неспособных избрать себе президента. Но это не так. Белорусский народ достаточно взрослый, грамотный и мудрый, чтобы сделать правильный выбор. И потом нести за этот выбор ответственность, как во всех развитых странах. К слову, именно нежелание большей части общества брать на себя эту ответственность вы и эксплуатировали долгое время, разыгрывая роль отца нации, готового взвалить на свои плечи весь груз проблем в обмен на лояльность и делегирование всех прав и полномочий одному человеку. Этот договор действительно действовал долгое время, но сейчас он рушится на глазах. В Беларуси наконец формируется полновесное гражданское общество, готовое самоорганизовываться, проявлять солидарность, отстаивать свои права, свое достоинство, свои принципы и убеждения. И, в конце концов, брать на себя ответственность за свою судьбу и судьбу Беларуси.

Я ни в коем разе не призываю к революции, к Майдану, чего вы очень боитесь. И, собственно, ничего не имею лично против вас. Я за демократию. А демократия, как известно, – это не победа демократов, а победа того, кого народ выбрал путем свободного волеизъявления. И если вы победите на честных выборах, то я это приму как выбор белорусского народа. Но при вас честных выборов не было никогда, и, как мне кажется, никогда не будет. А значит, не будет развития, прогресса, движения вперед. А будет упадок и деградация. Этого я своей Родине не желаю.

Я понимаю, что призывать вас к чему-либо бессмысленно. Но вы должны помнить, что мировая история не знает примеров счастливых диктаторов и что нельзя построить счастье на насилии. Весь мировой исторический опыт неумолимо о том свидетельствует.

Жыве Беларусь!

**Дмитрий КУРАТНИК, гражданин Беларуси.**

СКАНДАЛ!

# «На совещании просматривалась цель создать устойчивую преступную группу с целью фальсификации выборов…»

Жители Кричева **Николай Федоренко** и **Николай Маторенко** обратились в правоохранительные органы с заявлением, в котором просят привлечь к уголовной ответственности ряд лиц, участвовавших 20 июля в совещании с участием могилевских и кричевских чиновников с руководством участковых избирательных комиссий.

Заявители со ссылкой на материал и аудиозапись «Радыё Свабода» от 3 июня этого года указывают, что *«на совещании просматривалась цель создать устойчивую преступную группу с целью фальсификации выборов президента в Кричевском районе»*.

## Не обо всех встречах нужно знать широкой публике

В конце июля председатель Могилевского облисполкома **Леонид Заяц**, его заместитель **Валерий Малашко**, депутат Палаты представителей **Игорь Марзалюк** посетили некоторые районы области, где провели ряд встреч с трудовыми коллективами предприятий и организаций. Местные СМИ активно освещали эти встречи, делая акцент на производственных и творческих достижениях районов. К примеру, во время встречи 20 июля на цементном заводе генеральный директор **Владимир Корчевский** заверил областное начальство, что *«слово свое кричевские цементники держать умеют»*.

О том, что Л.Заяц и В.Малашко помимо широко разрекламированных встреч с населением (честнее будет сказать – с собранным активом) провели в Кричеве совещание с руководителями 25 участковых избирательных комиссий, стало известно лишь благодаря информации «Радыё Свабода», размещенной на сайте. Аудиозапись, приложенная к материалу, не оставила сомнения в участниках совещания.

Тем более что председатель Кричевской районной избирательной комиссии (он же начальник отдела организационно-кадровой работы райисполкома) **Михаил Мешкуро** подтвердил, что такая встреча действительно была.

Благодаря аудиозаписи стало известно, кто и что именно говорил на этом совещании. Мало того – стало понятно, почему о нем ничего не написали в райгазете и почему кричевляне были вынуждены обратиться в РОВД, Генпрокуратуру и ЦИК с просьбой дать встрече и высказываниям отдельных участников правовую оценку.

## Как тайное стало явным

Мало для кого в Беларуси является секретом технология проведения так называемых выборов с заранее известным результатом. Политологи и наблюдатели неоднократно подчеркивали, что главную скрипку в «спецоперациях» играют исполкомы. Именно они «сдают экзамен» главе государства. Другое дело, что исполкомы различными способами стараются замаскировать свою решающую роль в получении нужного результата с помощью «гражданского общества». В понимании чиновников это различные объединения, партии, трудовые коллективы. Но только те, которые занимают «государственную позицию». Надо ли вам приводить примеры, кто в Кричеве возглавляет общественные объединения, члены которых и занимаются «избирательным процессом». Сплошь чиновники.

Исполкомы формируют счетные комиссии из особо надежных людей. Как они говорят, *«с большим опытом работы и авторитетом среди населения»*. Конечно, никто не скажет: *«с большим опытом фальсификаций и полного отсутствия стыда»*. Есть ли среди тщательно подобранных «счетчиков» порядочные люди? Судя по утечке информации на «Радыё Свабода» – есть.

## Леонид ЗАЯЦ: «Мы должны эту кампанию завершить выбором Александра Лукашенко»

Согласно записи, председатель Могилевского облисполкома поблагодарил собравшихся за *«государственную позицию»*, предложил достойно, с честью исполнить свой гражданский долг. Л.Заяц отметил, что эта кампания отличается от предыдущих. *«Очень много желающих внести смуту, по-всякому повлиять на наших граждан изнутри»*, – говорит он.

*«Мы должны эту кампанию завершить выбором президента нашей страны Александра Григорьевича Лукашенко и сохранить нашу страну, сохранить наше государство»*, – прямо говорит предоблисполкома председателям, заместителям председателей и секретарям участковых комиссий, руководству районной избирательной комиссии. И ни слова о том, что подсчет голосов должен быть без фальсификаций, ни участковые, ни районная комиссии не должны заниматься манипулированием в чью-либо пользу.

Председатель Кричевского РИК **Андрей Седуков**, назначенный на должность 25 июня текущего года, ведя встречу, наставлял присутствующих: *«От вас зависит, как проведем избирательную кампанию. Как изберем руководителя государства – так и будем жить дальше»*. По его словам, *«протестных настроений районе нет»*. Чиновник привел в пример цифры: за действующего руководителя государства в Кричевском районе сдано 13.577 подписей, что составляет 55% от общего количества избирателей. *«Это свидетельствует о том, что жители района уже сделали выбор в пользу действующего президента Александра Григорьевича Лукашенко. Мы готовы к проведению выборов и убеждены, что кричевляне сделают единственно правильный выбор»*, – уверяет кричевский чиновник руководство области, делая при этом характерное ударение в слове «выборы». И как будто он не знает, как собирались подписи. Человек, чтобы от него отвязались настырные функционеры, поставил подпись, но голосовать он, возможно, будет за абсолютно другого кандидата. И не нужно Седукову прикрываться формальностями.

От руководства участковых избирательных комиссий, как следует из записи, выступили двое руководителей. Председатель участковой избирательной комиссии Сожевого участка №4 **Сергей Морозов** (директор Бельского УПК «Детский сад-школа», бывший заместитель председателя райисполкома), который имеет 20-летний опыт проведения выборов, убежден: *«Кричев никогда не подводил, у нас никогда не было никаких сбоев. Мы точно понимаем задачи, мы умеем работать, в комиссиях работают единомышленники. Кричев не подведет»*.

Что значит *«мы точно понимаем задачи»*? Задача у всех одна – президентские выборы должны быть честными, демократичными, справедливыми, без крючкотворства со стороны кого бы то ни было.

## Наговорили ли чиновники на уголовное дело?

В любой демократической цивилизованной стране подобные «говоруны» получили бы по заслугам. Впрочем, там никто не посмел бы проводить такие встречи, открыто намекая (а фактически требуя) чтобы руководители комиссий обеспечили избрание конкретной персоны вместо банального честного подсчета голосов избирателей. Но у нас страна особенная, зараженная вирусом авторитаризма, где подлинная демократия заменена гибридной, а выборы – их имитацией.

Впрочем, тот же Л.Заяц, как и А.Седуков, имеют право агитировать за любого кандидата в Президенты, но для этого есть пикеты, митинги, страницы газет, эфир радио и телевидения, но не на совещании с теми, кто в данном случае не в роли избирателей, а в роли организаторов проведения выборов. Порядочно было бы, если бы высокопоставленные чиновники сказали им: «Никаких фальсификаций, иначе пойдете под суд!»

Правоохранители, конечно, проведут проверку по заявлению кричевлян, но, полагаю, неглубоко копая и затягивая время. Хотя после прослушивания записи со знакомыми голосами у меня лично нет сомнений, что она подлинная.

Гораздо больше усилий будет предпринято с целью установить, кто «вынес сор из избы», кто «подвел Кричев». Ответственные за встречу и подбор комиссий получат по шапке. «Подозреваемые» в нелояльности могут попасть в «черный список» с далеко идущими последствиями.

Машина фальсификаций в этом политическом сезоне ввиду чрезвычайных для власти обстоятельств идет, как танк, не признающий никаких правил дорожного движения, не испытывая сантиментов и условностей. А правоохранители, похоже, едут на его броне, вместо того чтобы попытаться железное чудовище остановить.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

ПАЗІЦЫЯ

## Аляксандр ВАЙТОВІЧ: «Па правілах гуляць не збіраюцца»

– Я, безумоўна, сачу за тым, як праходзіць гэтая выбарчая кампанія, – *кажа былы кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук і экс-старшыня Савета Рэспублікі Беларусі*. – Ад гэтага залежыць будучыня краіны.

Але бачу, што ўлада і гэтым разам не збіраецца праводзіць празрыстыя і сумленныя выбары, а таму не цураюцца ніякіх метадаў у дачыненні да сапернікаў. Складваецца ўражанне, што ў прэзідэнты балатуюцца выключна крымінальнікі, бо падчас кожнай прэзідэнцкай кампаніі хтосьці з кандыдатаў аказваецца за кратамі. Ні ў адной краіне такога не бачыў!

Выбары – гэта ў першую чаргу роўныя магчымасці для ўсіх кандыдатаў. А ў Беларусі? Усе працуюць на аднаго, а для астатніх – суцэльныя забароны, збіццё, пераламаныя насы і крымінальныя справы.

Зараз улады яскрава паказалі, што па правілах гуляць не збіраюцца. З кожнымі выбарамі сітуацыя не паляпшаецца, а змяняецца толькі ў горшы бок.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

МЕРКАВАННЕ



## Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік: «Моладзь хоча іншай будучыні…»

*Вядомы навуковец выказаў сваё стаўленне да сёлетняй выбарчай кампаніі.*

– Прыемна бачыць, што народ абудзіўся, – *кажа Радзім Гаўрылавіч*. – Я жыву побач з плошчай Бангалор і бачу, колькі людзей прыйшло падтрымаць Святлану Ціханоўскую, калі яна праводзіла мітынг.

І бачу, што моладзь не хоча жыць пры гэтай уладзе, яна хоча іншай будучыні і для сябе, і для краіны.

Але баюся, што ўся гэтая актыўнасць можа для некаторых даволі кепска скончыцца. Тут складана прагназаваць, як будзе дзейнічаць улада. Я сказаў бы, што сітуацыя складаная.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЕЗОНАНС

# «Белая Русь» ответила Владимиру Делендику

На официальном сайте РОО «Белая Русь» эмоционально отреагировали на интервью «Народной Воле» бывшего депутата Палаты представителей, бизнесмена Владимира Делендика, который предложил ликвидировать «Белую Русь» и БРСМ. По его мнению, эти организации не справляются с вызовами времени: *«В том, что люди идут на площадь, виноваты и БРСМ, и «Белая Русь». Жополизы, извините, за грубое слово!»*.

*«Сами вы жополиз, г-н Делендик»*, – ответила «Белая Русь».

Кстати, материал на сайте – без авторства. Ни имя, ни фамилия не указаны. Почему – вопрос. Могли бы уж сразу, например, от лица председателя организации **Геннадия Давыдько** ответить. Но решили, видимо, что лучше с закрытым забралом, анонимненько.

В публикации безымянный автор обратил внимание на несколько фактов из биографии создателя «Дариды».

*«Где ваша футбольная команда «Дарида», игравшая когда-то в высшей лиге? Не надо нам ваших ответов. Нет ее давно, разогнали, разонравилась игрушка. Вот всего одна цитата ее бывшего игрока Дмитрия Калачева, образца 2011 года: «А вот из тех руководителей, о которых я не могу положительно отозваться, выделю Владимира Делендика. Ни одному клубу Беларуси не пожелал бы такого хозяина. Таких людей к футболу и близко подпускать нельзя»*.

На этот пассаж «Белой Руси» сразу по горячим следам ответил известный белорусский футболист, бывший директор футбольного клуба «Дарида» **Евгений Шабуня** – он направил им свое письмо. Не анонимное, с подписью.

*«Мы, бывшие футболисты команды «Дарида», после прочтения статьи Республиканского общественного объединения «Белая Русь» в адрес Владимира Викторовича Делендика остались очень возмущены. Являясь долгое время игроками ФК «Дарида», нам не понятен тот факт, на каком основании ваша организация публикует высказывание Дмитрия Калачева как мнение всего клуба?*

*Футбольный клуб «Дарида» был одним из лучших клубов на протяжении 10 лет. Для нас были созданы максимально комфортные условия, которые финансировались только за собственные деньги Владимира Викторовича. Разве мог «плохой руководитель», по словам господина Калачева, сплотить столько лучших игроков и поддерживать командный дух такое долгое время? Да, к нашему сожалению, наша команда распалась и нам не дали возможности заниматься любимым делом. Но это вопрос не к господину Делендику, а к чиновникам!*

*Мы, лучшие игроки ФК «Дарида», в опровержение вашей статьи готовы обратиться в суд! Если вы недостаточно компетентны в том, чтобы достоверно преподносить информацию, то не стоит начинать и «разводить грязь». Советуем вам заняться улучшением своей основной деятельности на благо Республики Беларусь!*

*Я, бывший директор ФК «Дарида» Евгений Шабуня, который руководил им последние годы до закрытия клуба, подписываюсь от лица всей команды. Делендик построил один из лучших стадионов в стране! Стыдно заниматься грязью!»*

В своих интервью Шабуня не раз подчеркивал, что Делендик – *«порядочный мужик, много денег своих потратил, стадион построил»*. *«У нас при Байдачном по 10 тысяч евро зарплаты были, Разин получал, Акопян, Байда тоже, хотя больше 2 тысяч долларов до него ни один тренер не зарабатывал»*, – говорил он «Прессболу». На вопрос о том, зачем бизнесмену надо было столько денег вбухивать в нерентабельное, по сути, предприятие, Шабуня отвечал так: *«Думаю, наличие команды помогало избираться депутатом, народ-то его поддерживал в том числе и за это. А потом, когда начались конфликты с Невыгласом и Дмитраницей, он просто устал бороться с ветряными мельницами и ушел из футбола»*.

Вспомнила «Белая Русь» и депутатство Делендика, а также ДТП, в котором погибла женщина: *«Вы два срока отсидели в Парламенте. Покажите хоть один инициированный и доведенный вами до ума законопроект? Ваши бывшие коллеги свидетельствуют, что таких нет и не было. А за ваши немногочисленные косноязычные выступления с высокой трибуны им приходилось краснеть…»*.

*«Вы два года назад убили человека в автомобильной аварии. При этом избежали любой уголовной ответственности, просто решив вопрос финансово…»*

Несчастный случай на дороге, к сожалению, может случиться с каждым водителем. От ДТП никто не застрахован. Секунда – и всё!

А от ответственности хозяин «Дариды» не уходил. По факту ДТП было возбуждено уголовное дело, Делендик признал себя виновным, оплатил ущерб и поддержал материально дочь погибшей, в том числе купил ей новое авто. Владимир Викторович обо всем этом откровенно рассказывал журналистам, причем с самого начала давал комментарии, не прятался от камер. Он первый был заинтересован в максимальной прозрачности этого дела. И Делендик не решал этот вопрос финансово, он не откупился от наказания, не подкупал следователей и судей – суд его амнистировал.

Депутат Делендик был, может, и не самый лучший оратор, но мысль всегда формулировал четко, от отсутствия идей не страдал, свое мнение имеет. И к нему как к депутату люди любили приходить на прием – он не отмахивался, а помогал конкретными делами. Как-то одна избирательница посетовала, что молния убила корову, так депутат просто купил ей другую. И до сих пор, кстати, многим помогает. И известным, и неизвестным. Без шума и афиш.

Кстати, Делендик отреагировал на этот анонимный материал «Белой Руси». Не таясь, от своего имени, написал комментарий на официальный сайт, поблагодарил за обратную связь.

*«Мне очень приятно, что вы так нервно отреагировали на мое высказывание. Сколько бы вы еще ни подвергали критике мои слова в надежде оправдаться в глазах людей, я искренне заявляю, что могу подписаться под каждым своим словом в ваш адрес. Ваша организация не приносит ни вреда, ни пользы обществу.*

*Что касается ваших обвинений в мой адрес – это ваше личное мнение! Я сделал для государства столько, сколько ваша организация не сделала за все время. Больше в полемику с вами я вступать не желаю. Желаю вам здоровья, всех благ и самое главное – не предавать Беларусь»*.

А еще «Белая Русь» назвала Владимира Делендика *«феноменальным бабником»*. Видимо, из-за того, что он поддержал «трех граций» – **Светлану Тихановскую, Веронику Цепкало** и **Марию Колесникову**: *«Они молодцы, бойцы!»*

Среди членов «Белой Руси» тоже немало женщин. Вот только почему-то их, к сожалению, сегодня не видно и не слышно на первых ролях.

А Делендик не отрицает свою любовь к красивым женщинам и не видит в этом ничего плохого.

*«Любил, люблю и буду любить!»* – говорит он.

**Марина КОКТЫШ.**

